ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

КНІГА НОША

№ 28
кастрычнік, 2014

ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

■ **АЎТОГРАФ**

## Людка СІЛЬНОВА:

# «Мяне натхняе само жыццё...»



**– Шаноўная Людміла Данілаўна, у Вашай творчасці заўсёды ёсць месца пошуку і эксперыменту: «Рысасловы», транслінгвізм і спробы стварыць уласную мову… Гульня са словам, лінгвістычныя эксперыменты Вас па-ранейшаму захапляюць?**

– Так. Відаць, гэта асаблівасць майго характару… Толькі цяпер я пра гэта сказала б не так узнёсла – «са словам», а больш прыземлена, як практык, – «са словамі». Словы як маленькія энергетычныя складнікі, празрыстыя «кубікі» нашай чалавечай культуры мяне паранейшаму цікавяць, а ў працэсе назірання, выкарыстання, гульні, зрэдчас і эксперымента – захапляюць! У мяне растуць унукі-дашкольнікі, і падчас блізкага кантактавання з імі я разумею, што вялікі свет адкрываецца мне нанова. У трэці раз (пасля сябе і ўласных дзяцей). Хіба гэта не падарунак для паэта? Наогул, для чалавека? Мне здаецца, што жыццё – гэта сума хваляў (накіраваных працэсаў). Шкада, што ў Беларусі няма натуральнага мора. Добра, што ёсць азёры. Іх празрыстыя хвалі – мадэль асяродка для чалавека.

Сучасны прыклад натуральнай моўнай гульні. Калі трохгадовае дзіця на празмерна стракатыя і крыклівыя серыйныя мультфільмы, або «мульцікі», што на экране тэлевізара, нейкі час упарта кажа «муць». Гэта і ступень вымаўлення слова, і наіўны прысуд, і нагода для смеху… У спрактыкаванага дарослага адразу ўключаецца вясёлая гульня асацыяцыяў. Цікава яшчэ, што слова можа быць не толькі маленькім складнікам культуры, але і вялікім, вельмі вялікім, нават пагрозліва вялікім. Напрыклад, як камп'ютарная каманда, спартыўны сігнал, вайсковы загад або гукавое «адзенне» свяшчэннага сімвала. Роля словаў у мастацкай творчасці таксама вялікая. Асабліва ў паэзіі – гэтым згушчаным рэчыве, падобным да зацвярдзелых кавалкаў замерзлай вады, колатага лёду ці крышталю. Параіла б моладзі вучыцца бачыць у словах, перафразуючы модны выраз – кніжную назву, «сто адценняў празрыстага».

*(Працяг на стар. 7)*

**Даведка «Кнігаўношы»:**

**Людка Сільнова – паэтка. Аўтар кніг паэзіі «Ластаўка ляціць...» (1993), «Рысасловы» (1994), «Агністыя дзьмухаўцы» (1997), «Зеленавокія воі і іх прыгажуні» (2001), «Зачараваная краіна» (2007), кнігі крытыкі «Крышталёвы сад» (2007). Нарадзілася ў 1957 годзе ў Маладзечна. Жыве ў Мінску.**

# ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Кудравец Анатоль. Зязюля пракукуе заўтра...: кніга прозы. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 272 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 54).**

У кнігу выдатнага майстра беларускай прозы Анатоля Кудраўца (1936–2014) увайшлі выбраныя апавяданні і аповесць, якія раскрываюць змястоўнае багацце, стылістычную каларыстыку і грамадзянскую актуальнасць яго прозы.




**Барысік Таццяна. Жанчына і леапард: апавяданні. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 132 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 56).**

Большасць сюжэтаў апавяданняў кнігі «Жанчына і леапард» – непрыдуманыя гісторыі з нашага паўсядзённага жыцця. Беларуская правінцыя на мяжы тысячагоддзяў: яе клопаты, радасці, боль, скруха, старэчая бездапаможнасць і дзіцячая непасрэднасць – уся гама пачуццяў і ўсе колеры блізкага вясковага неба ўважлівымі вачыма маладой пісьменніцы.




**Лундберг Сара. Віта Белая Крэска; мастак Сара Лундберг; пер. са швед. Надзеі Кандрусевіч. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 36 с.: іл. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»; вып. 6).**

«Віта Белая Крэска» – кніга шведскай дзіцячай пісьменніцы і мастачкі Сары Лундберг, аздобленая цікавымі выразнымі малюнкамі. Гэта гісторыя дзяўчынкі Віты, якая малюе крэскі на дарогах. Як дапамагчы хлопчыку перайсці дарогу, калі раз'юшаныя машыны нават не думаюць спыняцца? Віта ведае – намаляваць пешаходны пераход!




**Лундберг Сара. Віта Белая Крэска і Эйвінд; мастак Сара Лундберг; пер. са швед. Надзеі Кандрусевіч. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 32 с.: іл. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»; вып. 7).**

«Віта Белая Крэска і Эйвінд» – другая кніга шведскай дзіцячай пісьменніцы і мастачкі Сары Лундберг. Гэта працяг гісторыі дзяўчынкі Віты, якая малюе крэскі на дарогах. Гісторыя пра незвычайнае сяброўства, сутыкненне правілаў і свабоды, парадку і спантаннасці.




**Марціновіч Віктар. Мова: раман. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 264 с.**

Мінск, 4741 год па кітайскім календары. Часы Смутку скончыліся, надышла эра ўзвышэння Саюзнай дзяржавы Кітая і Расіі, бясклапотнага насалоджвання. Шопінг-рэлігіі і cold sexy. Аднак існуе Нешта, чаго ў гэтым грамадстве суцэльнага дабрабыту не стае, як вады і паветра. Сентыментальны кантрабандыст Сярожа пад страхам смяротнага пакарання ўвозіць каштоўны скарб з-за мяжы і апынаецца пад пільным кантролем мінскага падполля, узначаленага кітайскай мафіяй пад кіраўніцтвам таямнічай Цёткі. Разам яны спрабуюць зламаць сістэму, у якой дабро і зло, асветнікі і злачынцы, каханне і спажыванне, вернасць і здрада памяняліся месцамі. Ці можаце вы ўявіць Беларусь без Беларусі? Гэты раман – страшны сон пра будучыню, прадухіліць якую можна толькі ў лучнасці з тым скарбам, вакол якога і распачынаецца дзеянне гэтага лінгвістычнага баевіка.




**Шчасце ходзіць толькі ў пары з горам: Афарыстычныя радкі з паэтычных твораў Ніла Гілевіча. Асмакаваў і выбраў Яўген Стасевіч. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 40 с.**

Складальнік зборніка выбраў найлепшыя афарыстычныя радкі з вершаваных твораў народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча.

Быў час, быў век, была эпоха.

Дойдзем, дойдзем мы да Беларусі.




**Анталогія латвійскай паэзіі: вершы. Паэтычныя партрэты М. Асарэ, І. Балодэ, О. Вацыеціса, А. Золатава ды іншых; пад агульнай рэдакцыяй Евы Каліноўскай. – Мінск: Галіяфы, 2013. – 132 с.**

Анталогія латвійскай паэзіі – гэта ўнікальны праект, які аб'яднаў на сваіх старонках аўтараў з Латвіі XX і XXI ст. Нягледзячы на геаграфічную блізкасць нашых краінаў, творчасць латвійскіх паэтаў малавядомая ў Беларусі. Дадзенае выданне паклікана запоўніць гэтую лакуну і пазнаёміць беларускіх чытачоў з найлепшымі ўзорамі латвійскай паэзіі.




**Ахроменка Уладзіслаў. Музы і свінні: проза. – Мінск: Ковчег, 2014. – 218 с.**

27 гарадскіх міфаў, легенд і апокрыфаў пра герояў, якія нас змянілі: Дзед Талаш, Дзмітрый Шастаковіч, Кім Ір Сэн, Уладзімір Мулявін, Жак-Іў Кусто, а таксама акцёры, рэжысёры, музыкі, мастакі, цэнзары і камітэтчыкі, імёны якіх так і не захаваліся для нашай мастацкай спадчыны.




**Дубавец Сяргей. Сіні карабель у блакітным моры плыве або Шукальнікі вечнасьці. – Мінск: Ковчег, 2014. – 172 с.**

«Я хацеў бы ўсіх, хто чытаў мае ранейшыя кніжкі, крыху расчараваць, таму што ў гэтай кніжцы нічога падобнага вы не знойдзеце. Гэта кніжка пра тое, чаго не бывае, ніколі не было і ў прынцыпе не можа быць. Гэта чыстая проза без ніякай публіцыстыкі, без нічога, што магло б здарыцца ў рэальнасці. Не ведаю, наколькі мне гэта ўдалося, я хацеў напісаць кніжку ні пра што. І калі мне ўдалося напісаць кніжку ні пра што, я буду адчуваць сябе шчаслівым чалавекам…» (Сяргей Дубавец)



**Сапач Тацяна. Раннія вершы. Факсімільнае выданне. Выданне падрыхтавалі Сяргей Дубавец і Віктар Корзун. – 2014.**

Раннія вершы Тацяны Сапач даюць уяўленне пра самы пачатак творчасці аўтаркі «Восені», вершы якой завяршаюць сабою залатое XX стагоддзе беларускай паэзіі. Кніга выдадзеная ў той жа форме, у якой і была створаная – сшытка рукапісных вершаў (Тетрадь для заметок, Цена 30 коп.), нават захаваныя старонкі ў лінейку і рознакаляровыя атраманты.




**Мароз Уладзімір. Крыжы на ростанях: кніга вершаў. – Мінск: Зміцер Колас, 2014. – 140 с.**

У новай кнізе Уладзімір Мароз ідзе горнімі і дольнімі шляхамі Святой Зямлі і сваёй роднай Беларусі. Вершы вылучаюцца адметнай інтанацыяй, шчырасцю пачуцця, філасофскай заглыбленасцю:

І гэтай дарогай адходжана,
І тую дарогу прайшоў...
Здаецца: вось-вось узыходжанне
Да новых прасветленых слоў.

Але расчаруешся горка
Няздатнасцю дольніх шляхоў.
Наперадзе бачыцца горка –
А ты да яе не дайшоў.




**Нядбай Таццяна. Сірэны спяваюць джаз: вершы. – Варшава: Полацкія лабірынты, 2014. – 48 с.**

Дэбютную кнігу Таццяны Нядбай складаюць вершы ў жанры – як сказалі б падручнікі – інтымнай лірыкі. Напісаныя ў розныя гады, прысвечаныя розным людзям, натхнёныя рознымі падзеямі, вершы гэтыя тым не менш складаюцца ў цэльную гісторыю: чакання, кахання, расстання – але, самае галоўнае, гісторыю акрыяння і спакою. Прапануўваем чытачу перажыць гэтую гісторыю разам з аўтаркай.




**Наркевіч Стася. Пырскі: мініяцюры; уступ. арт. А. Казлова. – Віцебск: Віцебская абласная друкарня, 2014. – 104 с.**

Новая, чацвёртая, кніга Стасі Наркевіч «Пырскі», складзеная з мініяцюрак, дзе кожнае слова так і «страляе» па сэрцы, душы, прымушае задумацца аб жыцці, неабходнасці ашчаднага стаўлення людзей адзін да аднаго, да роднай прыроды, да самай дарагой зямлі маленства і сталасці...




**Наркевіч Стася. Камп'ютарны путанчык: сатырычна-гумарыстычныя апавяданні. – Віцебск: Віцебская абласная друкарня, 2014. – 136 с.**

У новую, пятую, кнігу Стасі Наркевіч увайшлі сатырычна-гумарыстычныя апавяданні, тэмы якіх аўтарка падгледзела ў жыцці і агучыла сакавітай беларускай мовай.

У ёй пісьменніца высмейвае ўсё тое, што перашкаджае рухацца наперад, парушае нашыя маральныя прынцыпы, і адначасова паказвае, якія беларусы таленавітыя і з тонкім пачуццём гумару. Вы ў гэтым пераканаецеся, калі пачнеце чытаць прапанаваныя апавяданні і міжволі напаўняцца пазітывам.

«Жывіце ў згодзе з вясёлым настроем, і ў вас усё атрымаецца», – раіць пісьменніца і сама шчыра ўсміхаецца. Няхай будзе так!




**Корнеў Алесь. «Узвівайся, што стрыж, мінівершык спарыш»: двувершы. – Брэст: Альтэрнатива, 2014. – 248 с.**

«Узвівайся, што стрыж, мінівершык спарыш» – гэта другі том выслоўяў Алеся Корнева на розныя тэмы жыцця ў выглядзе вершаў-двухрадкояў (спарышоў), працяг зборніка «Спарышы для душы». Абедзве кніжкі з агульнай прадмовай і эпілогам аўтара.

Над жытнім полем у ясноце
Павіс жаўрук на тонкай ноце.

Гром пужае сваім смехам,
Што раскатваецца рэхам.




**Святло «Святліцы»: вершы. Кн. 2. – Магілёў, 2014.**

У зборнік увайшлі найлепшыя творы маладых аўтараў гарадскога літаратурнага клуба «Святліца»: Кацярыны Волкавай, Аліны Малахавай, Анастасіі Варановіч, Ульяны Тамашэвіч, Ангеліны Шаблоўскай, Таццяны Карымуллінай, Аляксея Карпенкі, Станіслава Лукоўскага, Ганны Папікян, Марыі Грамаковай, Алены Воінавай, Анастасіі Падрабінкінай, Роберта Донец, Дар'і Глевіч, Алены Быкавай.

# Крок у невядомасць...

**Цырымонія ўзнагароджання пераможцаў літаратурнага конкурсу «Экслібрыс» імя Аляксандра Уласава прайшла ў крэатыўнай прасторы «ЦЭХ». На адмысловай вечарыне сабраліся пераможцы конкурса, сябры журы, арганізатары і прадстаўнікі партнёраў – кампаніі Prestigio, якая адмыслова для пераможцаў прапанавала прызы – сучасныя рыдары, газеты «Наша ніва», што адзначала аднаго з канкурсантаў спецыяльным прызам, і грамадскай культурніцкай кампаніі «Будзьма беларусамі».**



Анатоль ІВАШЧАНКА і Аляксей ШЭІН.

Вялі імпрэзу каардынатарка конкурсу Алена Казлова і аўтарка ідэі яго тэмы Юлія Цімафеева. Выбар кірунка нонфікшн для канкурсантаў сёлетняй прэміі «Экслібрыс» быў зроблены не выпадкова. Як адзначыла Юлія Цімафеева: «У сучаснай беларускай літаратуры не хапае рэфлексіі з нагоды цяперашняга, нядаўняга мінулага, таго, што можа адбыцца».

У конкурсе ўзяло ўдзел больш як тры дзясяткі творцаў ва ўзросце да 40 гадоў. Паводле ўмоваў, яны прадставілі на разгляд журы тэксты на вызначаныя тэмы ў жанры нон-фікшн.

Старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў, празаік Барыс Пятровіч падчас цырымоніі зазначыў: «Для нас гэты конкурс быў своеасаблівым крокам у невядомасць: мы мелі сумненні наконт правільнасці выбару жанру, пра які ў нашай краіне пачалі казаць нядаўна. Але па сутнасці, беларускія творцы заўсёды звярталіся да нон-фікшн: яны пісалі і мемуары, і нарысы, і ўспаміны. Раней пісьменнікаў, якія працавалі ў гэтым кірунку, лічылі больш набліжанымі да журналістыкі. Больш за тое, калі мы пачыналі конкурс, то казалі, што творы для яго трэба будзе пісаць спецыяльна. Мы абазначылі кола тэмаў, таму нельга было абысціся тэкстамі, напісанымі раней. Мы нават не спадзяваліся, што адгукнецца столькі маладых творцаў. Гэты конкурс даў нам магчымасць згадаць выдатнага публіцыста, журналіста, выдаўца, рэдактара «Нашай нівы» Аляксандра Уласава. Ён зрабіў вялікі ўнёсак у развіццё так званай «непрыдуманай літаратуры». 16 жніўня споўнілася 140 гадоў з дня яго нараджэння».

Кандыдат гістарычных навук Наталля Гардзіенка, старшыня новай секцыі нон-фікшн Саюза беларускіх пісьменнікаў, якая таксама была ўдзельніцай конкурсу, распавяла: «Галоўная ідэя стварэння секцыі нон-фікшн у Саюзе беларускіх пісьменнікаў – папулярызацыя непрыдуманай літаратуры. Гэта сапраўды – вельмі папулярны і вельмі разнастайны напрамак творчасці. Шмат выходзіць такіх кніг на захадзе, але ў нас ёсць пэўныя цяжкасці з яго развіццём. Практыка паказала: існуе дыскусія адносна таго, што разумець пад «непрыдуманай літаратурай», бо ў шырокім разуменні так можна назваць любую немастацкую кнігу – ад падручнікаў да зборнікаў кулінарных рэцэптаў. Мы хочам звярнуць увагу на мемуарыстыку, сацыяльную літаратуру. Натуральна, прэмія «Экслібрыс» усіх спрэчных пытанняў не вырашыць, але гэта вельмі добрая нагода паразмаўляць пра тое, чым была і чым ёсць непрыдуманая літаратура ў Беларусі і, магчыма, знайсці новых перспектыўных аўтараў».

Падчас цырымоніі прагучала і некалькі меркаванняў сяброў журы конкурсу пра ўзровень творчых працаў, прадстаўленых для іх разгляду. З відэазваротам да прысутных звярнулася пісьменніца, журналістка са Швецыі Інга-Ліна Ліндквіст, а непасрэдна ў зале прысутнічаў намеснік старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Алесь Пашкевіч. Ён падкрэсліў: «Літаратура «непрыдуманай рэфлексіі» для нас найбольш традыцыйная. Варта пачынаць згадку з летапісаў, хронік. У іх – факты, але не статыстыка, не лічбы. Якім бы занудам ні быў летапісец, ён сваю сваю душу часткова ўпісваў на паперу разам з атрамантам. І ў наш час выдатныя пісьменнікі Алесь Адамовіч, Святлана Алексіевіч, Янка Брыль, Уладзімір Калеснік працавалі і працуюць у гэтым жанры. У кожным з тэкстаў, дасланых на конкурс, было сваё спасціжэнне і сябе, і свету, і самае галоўнае – не заўважалася адвольнасці фактаў, але была душэўная адвольнасць пачуцця».

Апроч Інгі-Ліны Ліндквіст і Алеся Пашкевіча, у склад журы конкурса «Экслібрыс» імя Аляксандра Уласава увайшлі: Святлана Алексіевіч, Сяргей Дубавец, Вольга Шпарага, Аляксандр Фядута і Ірына Шаўлякова.

Так, пераможцамі конкурсу «Экслібрыс» імя Аляксандра Уласава, уладальнікамі адмысловых дыпломаў СБП, рыдараў Prestigio і прызоў ад кампаніі «Будзьма беларусамі» сталі:

– Студэнтка ГДУ імя Ф. Скарыны Крысціна Бандурына, якая прадставіла на разгляд журы тэкст «Глабальная роля пасрэднасці», прысвечаны асобе падпалкоўніка СС Адольфа Эйхмана;

– Паэт Антон Рудак. Пераможным стаў яго расповед «Лето, которого не было» – успаміны пра вучобу ў Нацыянальным гуманітарным ліцэі імя Якуба Коласа;

– Выкладчыца і журналістка Ганна Севярынец з эсэ «Беларуская мова: онтагенэз» пра навучанне аўтаркі на філфаку БДУ;

– Аляксей Шэін з расповедам пра падпольны хрысціянскі друк у Беларусі «Святыя падпольшчыкі»;

– Хведар Сумкін і яго эсэ «Мая беларускамоўнасць: між здрадаю і кампрамісам». Як выявілася, за маскай Хведара хаваўся паэт, супрацоўнік рэдакцыі часопіса «Дзеяслоў» Анатоль Івашчанка. Сам Анатоль распавёў, што яму патрэбен быў псеўданім – дарэчы, гэта беларускае водгулле знакамітага толкінаўскага хобіта Більба Бэгінса – каб дыстанцыянавацца ад праблемы, якая яму баліць. Бо калі баліць, то некаторыя рэчы прасцей казаць пад псеўданімам.

Галоўны рэдактар газеты «Наша ніва» Андрэй Скурко назваў лаўрэата спецыяльнай прэміі ад газеты «Наша ніва». Спецыяльны прыз – два тамы «Слоўніка мовы «Нашай нівы» атрымаў пісьменнік Сяргей Календа, які прадставіў на конкурс некалькі эсэ, прысвечаных працы ў сучасным гатэлі.

Творы пераможцаў конкурсу ўжо можна пачытаць на старонцы Саюза беларускіх пісьменнікаў. Асобныя тэксты будуць надрукаваныя ў газетах «Наша ніва», «Новы час», часопісе «Дзеяслоў».

**Марына Весялуха для lit-bel.org**

# ■ НАВУКА/ПУБЛІЦЫСТЫКА/ДАВЕДНІКІ




**Арлоў Уладзімір. Ад Полацка пачаўся свет/My Polacak, the Cradle of the World. Пераклад на англійскую мову Барыса Жукава, Джыма Дынглі. Фота – Сяргей Плыткевіч. Мастакі – Зміцер Герасімовіч, Алена Жданоўская. – Мінск: Рыфтур, 2014. – 160 с.: іл.**

Колькі гадоў нашаму найстаражытнейшаму гораду? Чаму ў Полацку знаходзяць столькі скарбаў? За што князя Усяслава Брачыславіча празвалі Чарадзеем? Куды знікла бібліятэка Сафійскага сабора? Як трапіць у полацкія падземныя лабірынты? Чаму Полацк стаў сталіцай Ордэна езуітаў? Хто такі «Чорны афіцэр»? Дзе шукаць Крыж Еўфрасінні Полацкай? Кніга «Ад Полацка пачаўся свет» адкажа на гэтыя і мноства іншых пытанняў.




**Лыч Леанід. Беларускае нацыянальнае пытанне ў калейдаскопе думак. – Мінск, 2014. – 158 с.**

Істотныя хібы дзяржаўнай палітыкі ў сферы культуры прывялі да рэзкага зніжэння ў ёй ролі свайго і панавання чужога пачатку, што абумовіла сур'ёзнае абвастрэнне беларускага нацыянальнага пытання на сучасным этапе. Па розных прычынах яно абыходзіцца ў навуковай літаратуры, у ідэалагічнай працы з людзьмі, не з'яўлялася прадметам абмеркавання ў вышэйшых эшалонах улады, што і схіліла аўтара дадзенай кнігі ўзяцца за пяро. Добра разумеючы, што грунтоўнае раскрыццё нацыянальнага пытання падуладна толькі цэламу калектыву высокаэрудзіраваных даследчыкаў, у кнізе яно асвятляецца толькі ў самых агульных рысах з мэтай прыцягнуць увагу палітыкаў, ідэолагаў, прагрэсіўныя колы грамадства да тэрміновага развязвання гэтай лёсавызначальнай для беларускага народа праблемы. Кніга ў першую чаргу адрасуецца тым, каго непакоіць дэградацыя сучаснага нацыянальна-культурнага жыцця беларускага народа.




**Рыбкин Михаил, Шульман Аркадий. Хроника страшных дней. Трагедия Витебского гетто. – 2-е изд., доп. – Минск: Медисонт, 2014. – 236 с.**

Кніга гісторыка Міхася Рыўкіна і пісьменніка Аркадзя Шульмана «Хроніка страшных дзён. Трагедыя Віцебскага гета» – дакументальна выверaны аповед пра крывавыя дні лета і восені 1941 года, калі фашыстамі і калабарацыяністамі было знішчана габрэйскае насельніцтва Віцебска – горада, які заўсёды займаў асаблівае месца ў габрэйскай гісторыі. Кніга – вынік шматгадовай працы. У ёй сабраны ўнікальныя дакументы, прыводзяцца шматлікія ўспаміны сведкаў.

У 2004 годзе выйшла першае выданне кнігі, якое стала бібліяграфічнай рэдкасцю. У 2007 годзе кніга выйшла ў перакладзе на нямецкую мову. За гэтыя гады сабраны новыя сведчанні даваенных жыхароў горада, вязняў Віцебскага гета, іх дзяцей і ўнукаў, людзей, якія апынуліся на акупаванай тэрыторыі. Выяўлены дакументы і фатаграфіі, што раней не публікаваліся. Яны ўвайшлі ў другое, дапоўненае выданне кнігі.




**Гучок Яўген. Альгерд Абуховіч: Зачараваны беларускім словам. – Мінск: Харвест, 2014. – 64 с.: малюнкі. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Альгерд Абуховіч (1840–1898) стаў адным з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры. Браў удзел у паўстанні 1863 г., адбыў ссылку ў Сібіры. Пасля вяртання жыў у Слуцку, займаўся літаратурнай працай, гуртаваў вакол сябе маладых беларускіх інтэлектуалаў.




**Лаўрэш Леанід. Вандалін Шукевіч: Беларускі археолаг і краязнаўца. – Мінск: Харвест, 2014. – 64 с.: малюнкі. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Вандалін Мацей Шукевіч (1852–1919) з Лідчыны – славуты беларускі археолаг, этнограф, фальклярыст і краязнаўца, чалец Віленскага таварыства сяброў навукі, член-карэспандэнт Кракаўскай Акадэміі ведаў.




**Чаропка Вітаўт. Геркулес, Руды і Пярун (Радзівілы-пераможцы). – Мінск: Харвест, 2014. – 320 с.: мал. – (Серыя «Неизвестная история»).**

Юрый Радзівіл па мянушцы «Геркулес» (1480–1541) паклаў пачатак родавай традыцыі правадырства войскам Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Ад 1530 да 1541 г. ён быў вялікім гетманам літоўскім. Яго сын Мікалай па мянушцы «Руды» (1512–1584) і ўнук Крыштоф «Пярун» (1547–1603) узначальвалі войска ВКЛ ад 1553 да 1603 г. Гэтыя таленавітыя правадыры дамагліся шмат якіх бліскучых перамог над ворагамі нашай старажытнай дзяржавы.




**Трафімчык Анатоль. 1939 год і Беларусь: забытая вайна. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2014. – 226 с.: іл.**

Кніга сучаснага беларускага даследчыка Анатоля Трафімчыка прысвечана найбольш супярэчлівым пытанням, звязаным з удзелам беларускага народа ў падзеях пачатку Другой сусветнай вайны. З беларусацэнтрычных пазіцыяў дадзены падрабязны аналіз прычынаў, перадумоваў і ходу разгортвання ваеннага канфлікту, праўдзіва ахарактарызавана месца і значэнне Беларусі ў палітычных гульнях еўрапейскіх дзяржаваў міжваеннага часу. Асаблівая крытычная ўвага надаецца праблеме «вызвалення» і «аб'яднання» Заходняй Беларусі з БССР у 1939 г. і ўсталявання там савецкай улады.




**Дружджь Пётр. Бітва пад Оршай 1514 года. Пераклад з польскай Андрэя Янушкевіча. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2014. – 214 с.: іл.**

У кнізе польскага гісторыка Пятра Дружджа на фоне шырокага асвятлення міжнародных падзей у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе распавядаецца пра перадумовы, ход і наступствы бітвы пад Оршай, якая адбылася паміж войскамі Вялікага княства Літоўскага і Маскоўскай дзяржавы 8 верасня 1514 года. Асобныя часткі кнігі прысвечаныя аналізу розных відаў зброі, вайсковых фарміраванняў і тактычных прыёмаў вядзення бою.




**Грыцкевіч Анатоль. Сцягі Оршы: гістарычны нарыс. – Мінск: А.М. Вараксін, 2014. – 64 с.: іл. – (Славутыя бітвы).**

Пад Оршай ліцьвіны не толькі адстойвалі суверэнітэт сваёй дзяржавы, але і баранілі рубяжы еўрапейскага свету. Пасля бліскучага трыумфу нашай зброі гетмана Астрожскага называлі другім Ганібалам, а яго рыцараў параўноўвалі з мужнымі ваярамі антычнай Македоніі. У гэтай кнізе падзеі 500-гадовай даўніны ўзнаўляе выдатны айчынны гісторык, доктар гістарычных навук Анатоль Грыцкевіч, далёкі продак якога баярын Юхно Грыцкевіч, як сведчаць дакументы Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага, «вярнуўся з Аршанскай бітвы пераможцам».




**Мартинович М.В. Великое Княжество Литовское, Русское и Жемайтское: от предпосылок к созданию до Люблинской унии 1569 года. – Минск: А.Н. Вараксин, 2014. – 624 с. – (Серия «Такая история»).**

У кнізе падрабязна даследуецца ўзнікненне, станаўленне і развіццё Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага ў маштабе ўсходне-еўрапейскага гістарычнага кантэксту X–XVI стагоддзяў.

Раскрываецца эканамічнае і сацыяльнае развіццё Вялікага Княства, пачынаючы ад разгляду перадумоваў да ўзнікнення гэтай дзяржавы і ўнутраных працэсаў княстваў і племянных саюзаў, што ўвайшлі ў яго склад. Аўтарам адсочваецца эвалюцыя асноўных палітычных і прававых інстытутаў Вялікага Княства Літоўскага, роля уніяў XIV–XVI стагоддзяў з Польскім каралеўствам, узаемасувязь вонкавай і ўнутранай палітыкі з падзеямі ў суседніх дзяржавах. Вялікая ўвага ў кнізе нададзена ваеннай гісторыі: прыведзены ўнікальны масіў інфармацыі пра ўзброеныя канфлікты, у якіх бралі ўдзел ваяры Вялікага Княства.

Кніга разлічана на ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй Вялікага Княства Літоўскага.




**Міцкевіч В.С. Каталіцкія кляштары XIV–XVIII стст. у межах сучаснай Беларусі; пад агул. рэд. Уладыслава Завальнюка. – Мінск. Рымска-каталіцкая парафія Св. Сымона і Св. Алены, 2013. – 244 с.: іл.**

Да ўвагі чытача прапанавана кніга па гісторыі сакральнай архітэктуры каталіцкіх святыняў нашай краіны ў гістарычны перыяд станаўлення, росквіту і заняпаду каталіцкага манаскага руху на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага ў межах сучаснай Беларусі. Для больш грунтоўнага знаёмства з гісторыяй манаскіх супольнасцей падаецца кароткая гістарычная даведка пра іх існаванне, класіфікацыю і ўдзел у хрысціянізацыі і адукацыі края. Тэрытарыяльнае распаўсюджанне ордэнаў адлюстравана на мапах XIV–XVIII стст. Інфармацыя пра сучасны стан кляштараў выведзена ў табліцы. Акрамя здымкаў касцёлаў і кляштараў падаюцца маштабныя планы будынкаў. Каляровыя малюнкі сучаснага мастака Л. Стрыжак і выявы французскага гравёра XVII ст. Ф. дэ Пойлі даюць уяўленне пра знешні выгляд вопраткі манахаў. Разгледжана паняцце фундатарства як удзелу магнатаў і шляхты ў хрысціянскім жыцці краіны.




**Зайка Алесь. Фразеалагічны слоўнік Косаўшчыны. – Брэст: Брэсцкая друкарня, 2014 – 308 с.**

Багатай крыніцай папаўнення і ўзбагачэння фразеалагічнага складу беларускай літаратурнай мовы з'яўляецца фразеалогія асобнага дыялекту. У «Фразеалагічным слоўніку Косаўшчыны» прадстаўлена фразеалогія насельнікаў паўночнай часткі Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Да кожнага фразеалагізма даецца тлумачэнне, прыводзіцца прыклад з жывой гутарковай мовы, што зноў жа такі дазваляе вызначыць сэнс кожнага выразу, пабачыць яго ў кантэксце.




**Ілліч Іван. Энергія і справядлівасць. Прылады для таварыскасці. Пер. з англ. – Вільня: Палітычная сфера, 2013. – 204 с.**

У выданне ўвайшлі дзве працы вядомага мысляра Івана Ілліча (1926–2002) «Энергія і справядлівасць» і «Прылады для таварыскасці». Працы прысвечаныя пошукам аптымальнага для сучаснага грамадства ўзроўню тэхналогіі, які, з аднаго боку, дазволіць пазбегчы экалагічнай і сацыяльнай катастрофы, а з іншага – забяспечыць прымальны ўзровень жыцця і дастатковыя свабоды для ўсіх. У «Энергіі і справядлівасці» аўтар разбірае гэта на прыкладзе транспарту, у «Прыладах для таварыскасці» разглядаюцца таксама медыцына, адукацыя ды іншыя сферы жыцця.

Кнігі можна замовіць ці набыць па наступных адрасах:
**«Акадэмічная кніга»,** г. Мінск, пр-т Незалежнасці, 72; e-mail: akademkniga@tut.by, тэл.: +375 17 292 00 52, 292 46 52, 292 50 43
**«Кніжны салон»,** г. Мінск, вул. Калініна, 5; e-mail: stival.salon@gmail.com, тэл.: +375 17 385 60 89
А таксама ў інтэрнэт-крамах: knihi.by, prastora.by, imbryk.by, ebooks.prestigioplaza.com і e-kniga.by

# «Мяне натхняе само жыццё...»

(Пачатак на стар. 1)

**– Вы захапляецеся маляваннем і вырабам кніг з тканіны і нетрадыцыйных матэрыялаў. Як уплывае Ваша хобі на літаратурную творчасць? У чым Вы знаходзіце крыніцу натхнення?**

– Сёння я, на жаль, маю менш магчымасцяў займацца сваім хобі (а асноўная магчымасць і рэсурс творчага чалавека – вольны час!)… У маладосці «штучных кніжачак» стварала больш. Гэта былі вынікі творчага пераймання (Пушкін, Маякоўскі, Хлебнікаў, Апалінэр), самаадукацыі, эксперыменту, нешта для сумесных калектыўных праектаў («Арт-прагноз-96»), нешта як водгук на творчасць калег-паэтаў (Разанаў, Артханаў, Глобус), а нешта як падарунак на Дзень народзінаў блізкім і знаёмым ці да іншага свята. Напрыклад, Дзень святога Валянціна так і спрыяе вырабу нечага з рукадзелля!

Ёсць яшчэ ў памяці і творчых сшытках архіў нерэалізаваных – нематэрыялізаваных! – падобных ідэяў! Спадзяюся, як прыйдзе час, да іх вярнуцца. Хутчэй – да іх звярнуцца, бо я нікуды ад іх не сыходзіла, яны заўсёды са мной. Там, у душы, недзе на асветленых сонцам лясных сунічных палянах… Каля невысокіх дрэваў, у пахкім зялёным імху, там бруіцца і халодная крыніца майго натхнення.

Як дарослага чалавека, які «ў пошуках радасці» мае ўжо «трэцяе пакаленне», адлічваючы ад сябе і сваіх равеснікаў, сёння мяне натхняе само жыццё. Яго цяпер ужо заўважна неспасцігальная тайна. Гэта нечаканы выклік чалавеку са свецкай адукацыяй 60-х – 70-х гадоў мінулага стагоддзя. І гэты факт цяжка без горычы ўсвядоміць і прыстасаваць да сваёй мадэлі сусвету. Тут дапамагае не рацыянальнае, а вобразнае мысленне.

Паступова прыходзіць адчуванне жыцця як яркага, рознакаляровага дарунка. Можа быць, кнігі. А каму – лялькі, цацачнай машыны, будаўнічага набору, мазаікі… Прымі, будзь удзячны і гуляйся з ім да Змяркання. Пакуль ласкавая маці не возьме цябе за руку і не павядзе, стомленага, у ложак.

**– Вы працуеце ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі і бачыце, што адбываецца і які зараз стан беларускай літаратуры «знутры». Бібліятэка, на Вашу думку, застаецца асяродкам культуры, скарбніцай веды, паспявае за развіццём тэхналогіяў (інтэрнэт, электронныя кнігі)? Якія кніжкі сёння найбольш папулярныя, запатрабаваныя ў чытачоў?**

– Гэта вельмі сур'ёзнае і вельмі канкрэтнае пытанне. Яно вымагае інстытуцкіх доследаў. А я – паэт, якога лёс закінуў у кніжныя руднікі і які там пасябраваў з вясёлымі гномамі – сапраўднымі ўладарамі кніжнай Гары. За гэта мне дазволілі ў адной з пячораў патрымаць у руцэ бліскучыя каштоўныя каменьчыкі. Жартую, спрабуючы набрацца сілаў, каб так ці інакш адказаць на гэта пытанне.

Справа ў тым, што ў бібліятэцы я шмат гадоў займаюся ў асноўным калекцыйнымі выданнямі XIX – пачатку XX стагоддзяў, бібліяграфічнымі запісамі такіх выданняў у электронным каталогу. Да таго ж маё працоўнае месца знаходзіцца сёння далёка ад чытачоў, у нетрах «Крышталю». Можна сказаць, што я змагаюся за культуру не на передавой (і не ў штабе!), а недзе ў архіве, з пажоўклымі, абтрапанымі, пабітымі часам дакументамі. Але яны выстаялі! Многія з іх набылі алічбаванае аблічча (што і не снілася іх аўтарам) і карыстаюцца чытацкім (збольшага – даследчыцкім) попытам у XXI стагоддзі. Гэта праца мяне натхняе і ў той жа час абмяжоўвае ва ўспрыняцці асаблівасцяў сучаснага літаратурнага працэсу.

На маё перакананне, Нацыянальная бібліятэка Беларусі і сёння застаецца і асяродкам культуры, і скарбонкай веды. Гэта як святло, што з'яўляецца адначасова і хваляй, і карпускулай. Святло – ад кніг, што ў ёй захоўваюцца; ад карцінных галерэяў, што ў ёй множацца; ад яе жоўтых калонаў колеру мёду (старажытнага сімвала ведаў і – паэзіі).

Сёння роля Бібліятэкі як асяродку культуры расце відавочна. Каб Бібліятэку наведвалі не толькі з утылітарнымі мэтамі (адзін з прыярытэтаў інфармацыйнага грамадства), але і з эстэтычнымі, педагагічнымі, забаўляльнымі, з кожным годам пашыраецца спіс кніжных і мастацкіх выставак, прэзентацыяў, фестываляў і іншых традыцыйных культурных мерапрыемстваў, якія праводзяць ці дапамагаюць арганізаваць у нас нашы ж супрацоўнікі.

Нацыянальная бібліятэка стараецца паспяваць за развіццём найноўшых бібліятэчных і інфармацыйных тэхналогіяў. У канцы кастрычніка гэтага года ў яе футурыстычных інтэр'ерах праходзіў II Міжнародны кангрэс «Бібліятэка як феномен культуры», на якім якраз ішла гаворка пра складанасці «перазагрузкі» бібліятэчнай справы ў сучасным свеце.

Найбольш папулярныя ў чытачоў зараз выданні, падручнікі, дапаможнікі, слоўнікі, уключаныя ў навучальны працэс у школе, у вышэйшай навучальнай установе, на курсах павышэння кваліфікацыі. Карыстаецца попытам багатая па колькасці выданняў у адкрытым доступе «Выстаўка новых паступленняў», якая мяняецца некалькі разоў на месяц, а таксама выстаўка навінак і тэматычныя выстаўкі ў спецыялізаваных чытальных залах. Тут спрацоўваюць два важныя словы для сучаснага інфармацыйнага свету – «адукацыя» і «хуткасць».

**– А што Вы самі чытаеце зараз і на што звярнуць увагу параілі б нашым чытачам?**

– Зараз я чытаю не «што», хутчэй «каго». З нядаўняга часу я вынайшла шлях больш хуткага пошуку добрай (ці проста цікавай) мастацкай літаратуры, а менавіта: чытаць усе кнігі раз упадабанага аўтара. Сёння гэта пісьменнік, літаратуразнаўца, журналіст і вандроўнік Пётр Вайль (кнігі «Родная мова», «Руская кухня ў выгнанні», «60-я: свет савецкага чалавека», апошняя па часе «Слова ў дарозе»; усе на рускай мове, частка напісана ў суаўтарстве). А летам я чытала ўнікальны раман Алеся Усені «Грэх». Раман унікнуў многіх праблемаў беларускай мастацкай прозы, і найперш назалелых часу і месца. Ён гістарычны, але не ў стылі дакументальнай прозы ці фэнтэзі, а я б сказала «неарэалізму». Усё апісана настолькі блізка да рэальнасці, што недзе ўжо і чуецца, бачыцца, халодзіць: гэта рэальнасць!

Чытачам «Кніганошы» я б параіла пачытаць яшчэ арыгінальныя беларускія паэтычныя і гульнявыя кніжкі апошняга часу, якія сталіся нечаканым адкрыццём: «Дзіцячая заМова» Глеба Лабадзенкі, «Ранння вершы» Тацяны Сапач, «АКРЫ» Арцёма Кавалеўскага. Школа гульні са словамі і кніжкамі працягваецца!

## ■ «ДЗЕЯСЛОЎ» РАІЦЬ




**Нільсан Ульф, Эрыксан Эва. Найлепшы спявак у свеце. Пераклад са шведскай Алесі Башарымавай. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 40 с. (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»; выпуск 3).**

«Найлепшы спявак у свеце» – новая кніга для дзетак з серыі «Каляровы ровар» Саюза беларускіх пісьменнікаў. Аўтары – шведскі пісьменнік Ульф Нільсан і мастачка Эва Эрыксан – стварылі цэлы шэраг дзіцячых кніг з малюнкамі, якія ўжо сталі класікай. Па-беларуску казка загучала дзякуючы перакладчыцы Алесі Башарымавай. Паводле яе словаў, «гэта гісторыя хлопчыка, які любіў спяваць, але саромеўся рабіць гэта перад публікай, гісторыя таго, як ён перамог гэты комплекс. Яна апісаная з лагодным гумарам, і я думаю, тыя, хто пазнае сябе ў герою, гэта ацэняць і змогуць па-іншаму паглядзець на свае праблемы, якія цалкам могуць аказацца ўяўнымі. А гумар у такім выпадку можа быць найлепшай дапамогай». Шчыра рэкамендуем гэтую чытанку ўсім беларускамоўным бацькам і іх дзеткам.

**Павел Севярынец. Беларуская глыбіня. – Вільня: Логвінаў, 2014. – 296 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»).**

У новую кнігу вядомага палітыка і літаратара Паўла Севярынца ўвайшлі эсэ, напісаныя падчас апошняга зняволення аўтара. Тэксты пісаліся цягам трох гадоў і друкаваліся, па меры іх стварэння, у прэсе. Сёння эсэ пра лёс Беларусі і яе народа – усе разам пад адной вокладкай.




*«Беларуская глыбіня» – гэта сведчанне. Калі табе раптам у забытым і занядбаным адкрываецца нешта найвышэйшае – ты сам не здольны гэта ўмясціць, і таму дзелішся. Чытачу хачу сказаць: Бог побач. Тут. Ён любіць Беларусь мацней, чым кожны з нас – і любіць настолькі моцна, што не можа пакінуць нас такімі, якія мы ёсць. Гэтая кніга – спроба ўглядзецца ў нашу беларускую глыбінку, каб убачыць праз яе Хрыста. Углядзецца ў вочы. У лёсы. У далягляды скрозь краты... Беларуская глыбіня – гэта насамрэч імкненне ўгару,* – падзяліўся Павал з чытачамі сайта Саюза беларускіх пісьменнікаў (www.lit-bel.org).




**Алесь Усеня. Грэх: раман. – Мінск: Медысонт, 2014. – 640 с.**

Вера, Надзея, Любоў... Не ўсе ведаюць, што гэта не проста ўстойлівае словазлучэнне, а імёны маленькіх дзяўчынак, якія ў II ст. н.э. на загад рымскага імператара Адрыяна былі жорстка закатаваныя і забітыя, бо не пажадалі адрачыся ад Хрыста. Пра іх подзвіг расказваецца ў рамане. Іўдзейскае паўстанне, пасля якога яўрэі на дзве тысячы гадоў страцілі сваю тэрыторыю, інтрыгі і барацьба за трон у Рымскай імперыі, а перадусім – гісторыя трагічнага кахання маладых іўдзея і хрысціянкі, – усё гэта знітавана захапляльным сюжэтам.

## ■ КАНТАКТЫ

Пададзеныя ў бюлетэні кнігі
Вы можаце замовіць непасрэдна ў выдаўцоў
па наступных кантактах:

Кніжныя серыі:
**«Бібліятэчка «Дзеяслова»,**
**«Кнігарня пісьменніка»,**
**«Бібліятэка «Бацькаўшчыны»,**
e-mail: knihanosza@gmail.com,
тэл.: +375 17 200 70 27

**«Гарадзенская бібліятэка»,**
e-mail: dzmuchavec@gmail.com,
тэл.: +375 29 133 87 17

**ІП «Логвінаў»,**
e-mail: lohvinaupress@gmail.com,
тэл.: +375 29 667 47 57

**ПУП «Кнігазбор»,**
e-mail: bkniha@tut.by,
тэл.: +375 29 772 19 14

**ПУП «Радыёла-плюс»,**
e-mail: siuchykau@gmail.com,
тэл.: +375 44 561 05 28

**СТАА «Медысонт»,**
e-mail: medisont@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 74 10

**Выдавецтва «Галіяфы»,**
e-mail: vish@bk.ru,
тэл.: +375 29 678 68 06

**Выдавецтва «Лімарыус»,**
e-mail: limarius@yandex.ru,
тэл.: +375 29 679 33 36

**ІП «Зміцер Колас»,**
e-mail: zkolas@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 35 65



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
КНІГА НОША
№ 28
кастрычнік, 2014
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**Інфармацыйны бюлетэнь МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Наклад 299 асобнікаў. № 28 24.10.2014.
Адказны за нумар – Алесь Сачанка.
Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31-906, 220012, тэл./факс: (+375 17) 200 70 27.
E-mail: knihanosza@gmail.com